# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 4 (204)

24 СТУДЗЕНЬ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Сепа 60 gr.




# АНТОН ЧЭХАЎ

**(ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ)**

Антон Чэхаў нарадзіўся 17(29 студзеня) 1860 г. у Таганрогу. Ён дарагі і блізкі для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва як выдатны мастак-гуманіст. Амаль чвэрць веку працягвалася літаратурная дзейнасць Чэхава. Пачалася яна ў змрочныя 80-ыя гады, гады паліцэйскага тэрору ўсялякай свабодалюбівай думкі, і закончылася напярэдадні першай рускай рэвалюцыі.

Чэхаў намаляваў надзвычайныя па сваёй праўдзівасці і мастацкай сіле карціны жыцця розных слаёў рускага грамадства, стварыў яркія, незабыўныя вобразы. У крытыцы перажыткаў прыгонніцтва, у палымянай абароне асветы і свабоды і адстойванні народных інтарэсаў Чэхаў выступіў як прадаўжальнік дэмакратычных традыцый рускай літаратуры. Ён давёў да дасканаласці мастацтва невялікага апавядання.

Чэхаў з'явіўся стваральнікам п'ес, якія адчынілі новую старонку ў гісторыі рускай і сусветнай драматургіі і тэатра. Дзесяткі год з велізарным поспехам яны ідуць на сцэнах савецкіх і зарубежных тэатраў, выклікаючы захапленне мільёнаў гледачоў.

Нараджэнне Маскоўскага мастацкага тэатра (1898) звязана з пастаноўкай п'есы Чэхава «Чайка», меўшай незвычайны поспех. Вобраз лятучай чайкі стаў эмблемай гэтага тэатру.

Апошняе апавяданне Чэхава «Нявеста» поўнае прадчування рэвалюцыйнай буры, якая надвігаецца: «Усё пойдзе ўверх дном, усё зменіцца, як па чараўніцтву. І будуць тады велізарныя раскошныя будынкі, цудоўныя сады, фантаны, незвычайныя, выдатныя людзі...»

У 1900 годзе Чэхаў выбіраецца ў ганаровыя акадэмікі Расійскай Акадэміі навук па класу прыгожага пісьменніцтва. Разам з В. Г. Караленка, ён адрокся ад гэтага звання ў 1902 годзе ў знак пратэсту супраць адмены Нікалаем II выбрання М. Горкага ганаровым акадэмікам.

Першы свой вялікі твор «Фама Гардзееў» Горкі прысвяціў Чэхаву.

На 1 кастрычніка 1959 года ў СССР выдана 1189 кніг А. П. Чэхава тыражом у 54 мільёны 368 тысяч экземпляраў на 74 мовах народаў СССР і іншых народаў.

Шматлікія апавяданні і п'есы А. П. Чэхава экранізаваны. Створан таксама дакументальны кінафільм «Запісныя кніжкі — Чэхава».

Мемарыяльныя музеі А. П. Чэхава знаходзяцца ў Таганрогу, у Ялце, Маскве, Меліхаве (Маскоўская вобласць).

. . . . . .

ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ

# ЗА СВЕЦКАЕ ВЫХАВАННЕ МАЛАДОГА ПАКАЛЕННЯ


**ВІКТАР ШВЕД**

Сакратар Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства, член Ваяводскага праўлення Таварыства свецкай школы.


Беларускае грамадска - культурнае таварыства набліжаецца да свайго чарговага III З'езду, які займецца падсумаваннем дагэтуляшняй дзейнасці, зверне ўвагу на недахопы і вызначыць напрамкі далейшай працы БГКТ. Чатыры гады таму назад, пасля свайго арганізацыйнага З'езду Таварыства знаходзілася на вузенькай дарожцы, на якой ставіла першыя крокі і таму змест і формы яго працы былі надта бедныя мала разнастайныя. Беларускае таварыства ў галіне культурнай працы абмяжоўвалася пераважна да стварэння і развіцця самадзейных мастацкіх калектываў.

Бурлівае жыццё і хуткі марш наперад нашай краіны ставілі перад Таварыствам, як і перад усімі таго роду арганізацыямі, усё новыя вымогі. З'яўляючыся памочнікам партыі, трымаючы гэтай сваёй дзейнасці як найшырэйшае ўключэнне беларускага насельніцтва, пражываючага ў Польшчы, у палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё нашай краіны. выхоўванне гэтага насельніцтва ў напрамку як найлепшага сужыцця з польскім насельніцтвам, Таварыства вымушана было выпрацоўваць усё больш разнастайныя формы і багацейшы змест вашай працы. Інакш яно не датрымала б кроку жыццю, не магло б адыграць той ролі, для якой было створана. Гэтыя новыя формы і ўсё больш разнастайны змест нарадзіліся ў штодзённай працы таварыства.

«Галоўныя праўленні Таварыст-

**(Працяг на стар. 2)**

# СУПОЛЬНА ЎСЁ Ж ЛЕПШ

Іх нямнога. Усяго 18 чалавек, якія падпісалі статут. Гаспадараць на 72-х гектарах зямельных угоддзяў. Зямля слабая — клас 4б, 5 і 6. У 1955 годзе ўпершыню дзялілі супольна выпрацаваны даход. Вынікі супольнага гаспадаравання былі проста нечаканыя, улічыўшы мясцовыя ўмовы.

На сталах спулдзельцаў з'явіўся белы пшанічны хлеб, не толькі па святах. Усе перасталі баяцца праднжніўнага перыяда, калі не хапала хлеба. Успамінаю размовы з сялянамі, якія працавалі на аднаасобніцкіх гаспадарках. Гаварылі тады:

— Сапраўды, могуць цяпер есць булачкі і пернікі, бо атрымалі добра загаспадараваную зямлю. Пачакай некалькі гадоў, тады пабачым.

**АПТЫМІСТЫЧНЫ ЮБІЛЕЙ**

Прайшлі гэтыя некалькі год. Менавіта, у гэтым годзе 13 студзеня спулдзельцы ўрачыста правялі падлік за мінулы год працы. Ужо пяты раз.

— Можна сказаць, малы юбілей. Першая пяцігодка за вамі. Можна павіншаваць, — звяртаюся да старшыні грам. Максіма Рудчыка.

— А можна. Спулдзельня безу-

**(Працяг на стар. 4)**

